© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



# Навіны БНФ

спэцвыпуск
жнівень 2008

Web: www.pbnf.org
E-mail: pbnf@pbnf.org



# Лявон Баршчэўскі: «Павярнуць Беларусь у бок цывілізаванага эўрапейскага разьвіцьця»

***— Партыя БНФ вядомая людзям тым, што заўсёды бароніць беларускія нацыянальныя інтарэсы. Але ці ёсьць сёньня ў гэтым патрэба? Якія мэты БНФ сёньня?***

— Свае мэты Партыя БНФ рэалізуе, з аднаго боку, як самастойны суб'ект беларускай палітыкі, а зь іншага боку — як складовая частка Аб'яднаных дэмакратычных сілаў (АДС). Першасная мэта — упэўніцца, што наша грамадзтва "не забылася" на Беларускі Народны Фронт як сілу, што стаяла каля вытокаў узнаўленьня незалежнасьці Беларусі ў 1991 г., як сілу, якая пасьлядоўна, без хістаньняў адстойвае незалежніцкую пазыцыю й агітуе за інтэграцыю нашай краіны ў эўраатлянтычныя структуры — перадусім у Эўрапейскі Саюз і Арганізацыю Паўночнаатлянтычнай Дамовы. Як частка АДС мы адстойваем правы людзей на справядлівасьць, законнасьць, паўнавартасны кантроль грамадзтва над уладай. Шматлікія чыноўнікі й прыбліжаныя да іх асобы, на якіх сёньня трымаецца беларускі рэжым, купаюцца ў раскошы — у той час, як звычайнаму беларусу даводзіцца праліваць сем патоў, каб зарабіць мінімальна прыстойную зарплату альбо пэнсію.

Апошнія падзеі вакол Грузіі паказалі, што цалкам здыскрэдытавала сябе так званая "саюзная дамова": яшчэ крыху, і беларусаў могуць уцягнуць у войны далёка па-за яе межамі, супраць чаго Партыя БНФ заўсёды пасьлядоўна змагалася. Тым болей, што за "саюзную дамову" мы больш ня будзем атрымоўваць і танны расейскі газ.

Нашай дзяржаве трэба радыкальна скарачаць свае выдаткі на неабавязковыя рэчы: звольніць вялікую армію "ідэалягічных работнікаў", у разы зьменшыць колькасьць унутраных войскаў, АМАПу, розных "кантралёраў над кантралёрамі"; устанавіць, што фінансаваньне розных дарагіх мерапрыемстваў, кшталту "Славянскага базару" або пабудовы чарговых лядовых палацаў, павінна ісьці не зь дзяржбюджэту, а з спонсарскіх сродкаў; адмовіцца ад чарговага перапісваньня школьных падручнікаў і вучэбных праграмаў...

***— Якая стратэгія Партыі БНФ?***

— Што да стратэгіі Партыі БНФ, дык яна абсалютна шчырая: прыйсьці да ўлады, самастойна альбо разам з сваімі найбліжэйшымі палітычнымі саюзьнікамі, і павярнуць наш край у бок цывілізаванага, эўрапейскага разьвіцьця Беларусі: калі ў нашай краіне будуць шанавацца талент і праца, а не адданасьць таму ці іншаму чыноўніку, няхай сабе самаму высокаму.

***— Навошта Партыя БНФ удзельнічае ў цяперашніх выбарах, хоць яны, відавочна, ня ёсьць і ня стануць свабоднымі і справядлівымі?***

— Гэтую парляманцкую кампанію мы разглядаем як этап у падрыхтоўцы да будучых прэзыдэнцкіх выбараў, якія мусяць адбыцца ў канцы 2010 або на пачатку 2011 году. Мэта ж сёлетніх выбараў у Палату прадстаўнікоў — дамагчыся правядзеньня справядлівых і дэмакратычных выбараў, вызваленьня ўсіх зьняволеных паводле палітычных матываў. Дзеля гэтага патрэбны мінімум добрай волі з боку сёньняшніх уладаў. Калі ж улада гэтай добрай волі ня выявіць, будзем дамагацца ізаляцыі рэжыму (не звычайных беларускіх грамадзянаў!) на міжнароднай арэне і ўнутры нашага грамадзтва. Калі ўлада будзе зноў выкрадаць галасы выбаршчыкаў, будзем паўсюдна крычаць пра гэта!

***— Хто ад Партыі БНФ вылучаецца ў якасьці кандыдатаў на парлямэнцкіябвыбары?***

— Партыя БНФ падтрымлівае парляманцкую кампанію 25-ці кандыдатаў ад партыі і сябраў Грамадзкага аб'яднаньня БНФ "Адраджэньне". Гэтыя людзі — зрэз нашага сёньняшняга грамадзтва. Тут ёсьць пасьпяховыя інжынэры й рабочыя прамысловых прадпрыемстваў (Аляксандар Мех з Кобрыня, Ганна Леўчанкава з г.п.Барань на Аршаншчыне, Валеры Пуціцкі з Рэчыцы, Леанід Аўтухоў з Гарадку, на Віцебшчыне), спэцыялісты сельскай гаспадаркі (Рыгор Кастусёў з Магілёў-скай вобласьці), настаўнікі (Мікола Ляшчун з Лагойшчыны), дактары (Іван Шэга з Слоніма), вайскоўцы запасу й колішнія супрацоўнікі МНС (Станіслаў Суднік зь Ліды, Зьміцер Віниградаў зь Мя-дзела), індывідуальныя прадпрымальнікі (Вадзім Саранчукоў з Горадні), журналісты (Вінцук Вячорка, Віктар Івашкевіч зь Менску), кіраўнікі незалежных прафсаюзных суполак (Сяргей Антусевіч з Горадні), маладыя й амбітныя грамадзкія й палітычныя лідары (Аляксей Януковіч зь Менску, Яраслаў Берніковіч з Глыбоцкага раёну, Юрась Губарэвіч, Віталь Каратыш зь Берасцейшчыны) і іншыя... На жаль, зь віны ўладаў мы нясем рознага кшталту страты. Аляксандар Мех і Леанід Аўтухоў, якія мелі выдатныя характарыстыкі на сваіх месцах працы, пасьля таго, як заявілі пра намер удзельнічаць у выбарах, былі звольненыя (у выпадку з Аляксандрам Мехам у Кобрыні — пасьля цынічнага і непрыхавальнага ўмяшаль-ніцтва спэцслужбаў), Віталь Каратыш цягам некалькіх дзён быў змабілізаваны ў армію, а Зьмітру Вінаградаву проста гвалтам не дазволілі здаць неабходныя дакумэнты на рэгістрацыю ініцыятыўна групы ў акруговую камісію. Дзясяткі актывістаў нашай партыі падвяргаліся і падвяргаюцца рознаму ўціску за ўдзел у ініцыятыўных групах кандыдатаў ад Партыі БНФ, у тым ліку арыштоў-валіся, выклікаліся на допыты ў КДБ, Дэпартамэнт фінансавых расьсьледаваньняў і г.д. Дарэчы, большыня нашых кандыдатаў за адстойваньне сваіх поглядаў прайшла праз турмы, вялізныя штрафы, іншыя формы палітычнага пераследу.

Этап збору подпісаў за вылучэньне кандыдатаў, аднак, паказаў, што нашы суграмадзяне не баяцца Партыі БНФ і ў сваёй большыні без праблемаў ставяць свае подпісы за вылучэньне нашых кандыдатаў у Палату прадстаўнікоў. Разам з тым, шмат хто зь беларусаў ня верыць, што ўжо сёлета нам удасца дамагчыся больш-менш справядлівых выбараў.

***— Чаму Партыя БНФ удзельнічае ў выбарчай кампаніі як складовая частка АДС! Чаму не выстаўляе сваіх кандыдатаў па кожнай са 110-ці акругаў?***

— Мы паважаем узятыя на сябе кааліцыйныя абавязкі й дзейнічам у межах узгодненага адзінага сьпісу ад Аб'яднаных дэмакратычных сілаў. Разам з тым, рашэньне аб фармаце канчатковага нашага ўдзелу ва ўсіх этапах выбарчай кампаніі наша партыя прыме самастойна, з улікам думкі Прэзыдыюму АДС.

***— Ці будзе Партыя БНФ нарэшце вылучаць свайго кандыдата ў прэзыдэнты ў 2010 годзе!***

— Паводле рашэньня X зьезду нашай партыі мы будзем вылучаць свайго партыйнага кандыдата, які, спадзяюся, пасьпяхова пазмагаецца за права быць галоўным кандыдатам ад дэмакратычных сілаў. Партыя БНФ саступала права вылучэньня кандыдата ў прэзыдэнты іншым суб'ектам беларускага дэмакратычнага палітычнага спэктру, пачынаючы з 2001 году. Цяпер, як я лічу, зноў надышла наша чарга. Неабходныя перадумовы для гэтага ёсьць.



старшыня Партыі БНФ Лявон Баршчэўскі

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

Навіны БНФ

# Бяздомныя й безьзямельныя на сваёй зямлі?

## Такую будучыню нам рыхтуюць улады

Апошнімі гадамі што ні месяц, то чарговая навіна пра зямельны канфлікт зь яўным ці прыхаваным удзелам расейскага капіталу. Сёньня ўжо можна сказаць, што гэта сыстэмная зьява, якая пагражае дабрабытнай будучыні беларускага народу.

Відавочны пачатак расейскай зямельнай атакі на Беларусь – не пазьней за лістапад 2005 году. Банку "Москва-Минск" па просьбе Лужкова й са згоды беларускага ўраду (!) заманулася пашырыць плошчы коштам даваеннага дому на вул. Камуністычнай, 49. Адзінаццаць кватэраў дому ў самым цэнтры сталіцы, заселеныя збольшага карэннымі менчукамі, ацанілі па... 8 тысячаў. Людзі адмовіліся зьяжджаць, спрабавалі пратэставаць, але на загад улады прыйшла ўзброеная міліцыя, і старажылаў гвалтам павыкідалі на ўскраіны. Так удалася першая спроба.

Тралейбуснае дэпо ў цэнтры Менску, што каля плошчы Перамогі, пераехала ў прыгарад. На яго месцы пабудаваць забаўляльны комплекс бярэцца маскоўская нафтавая фірма «Манолиум-процессинг». Нашто забаўляльны комплекс? Не забываймася, што з Масквы выцясьняюць казіно. Гэта азначае, што ў Менск, прадбачліва запоўнены гэтымі ўстановамі й ператвораны ў постсавецкі Ляс-Вэгас, паедуць спускаць праведна нажытыя грошы маскоўскія бандыты – з усімі сваімі паслугачамі й норавамі.

І пайшло далей. Наступным смачным кавалкам беларускай зямлі стала цэлая вуліца ў цэнтры сталіцы – К.Маркса (гістарычны назоў Падгорная). Заявілі, што будуць рабіць яе пешай, а ў сьвеце нібыта на пешаходных вуліцах ніхто не жыве, таму – давай высяляйся на ўскраіны. Няпраўда: я бачыў пешыя вуліцы ў розных гарадох сьвету, і ўсюды на іх жывуць. Проста зноў некаму спатрэбілася зямля пад казіно, а камусьці захацелася дапамагчы добрым людзям – магчыма, ня толькі за добрае слова.

Але тут адыграла сваю ролю жыхарская салідарнасьць. Сотні насельнікаў асуджаных на глум дамоў, акрамя таго што пісалі лісты, некалькі разоў перакрылі вуліцу. Прыкметным сярод пратэстоўцаў было аблічча Уладзімера Арлова, знакамітага пісьменьніка й сябра Сойму Беларускага Народнага Фронту. Улады адступіліся. Але, на жаль, перамога беларускіх жыхароў над капіталам невядомага паходжаньня – выключэньне, а ня правіла.

Атабарыліся ў цэнтры – узяліся за адносна чыстыя экалягічна раёны сталіцы. У прыватнасьці, іх прывабіў мікрараён Зялёны Луг. Дагэтуль ня маюць адказу на свае пытаньні жыхары дамоў па вул. Гамарніка і Мірашнічэнкі, паміж якімі будуюць 12-павярховы дом. Яны кажуць, што ў генэральным пляне будынак не прадугледжаны. Што пабудова перакрые доступ сьвежага паветра ў калодзежападобны двор. Сонца не патрапіць з адзінага сёньня паўднёвага прасьвету ў двор, пасярэдзіне якога – дзіцячы садок санаторнага тыпу. Дарэчы, раней, у 1992 годзе, Менгарвыканкам ужо прызнаваў будаўніцтва на гэтым месцы немагчымым з прычыны нетрываласьці насыпных грунтоў (праўда, тады і ў Вярхоўным Савеце, і ў гарсавеце былі дэпутаты БНФ).

Сотні жыхароў зьбіраюцца на сходы, сотні подпісаў пад зваротамі, у адказ на якія – адпіскі. Жанчыны адчайна кладуцца пад бульдозэры, іх затрымлівае міліцыя. Паводле заканадаўства і ратыфікаванай Беларусьсю Оргускай канвэнцыі, у выпадках пагрозы навакольнаму асяродзьдзю меркаваньне жыхароў павінна ўлічвацца і быць вырашальным. Але забудоўца так і не паказаў жыхарам усяе дакумэнтацыі на будоўлю.

Раней на тым участку аднавілі камунікацыі – за бюджэтныя грошы (спэцыялісты ведаюць, што на гэтым прыватны забудоўца "эканоміць" да 40%). А ці маюць падставу здагадкі, што дом з двухпавярховымі кватэрамі ды падземным паркінгам фармальна ня мае "павышанай камфортнасьці", бо тады ўчастак пад забудову даюць без аўкцыёну?



Вінцук Вячорка на сустрэчы з жыхарамі Зялёнага Лугу

Хто тыя таямнічыя ЯНЫ, пра якіх кажуць жыхарам чыноўнікі ("вы ня ведаеце, на КАГО замахнуліся")? Чаму паводзіны новых забудоўцаў сталі нагадваць стыль расейскіх зямельных захопнікаў-рэйдэраў? І гэта далёка ня ўсе пытаньні ў сувязі зь менскімі "ушчыльняльнымі" новабудоўлямі.

А хто тыя людзі, якім дазволена будаваць паглядныя дамы каля самага Цнянскага вадасховішча (як і іншых вадаёмаў краіны)? Хто памяняў пад патрэбы гэтых, напэўна, дужа важных для Беларусі людзей генэральныя пляны, а нават само водаахоўнае заканадаўства - калі ў сьнежні 2007 г. пастановай ураду дазволілі будавацца за 30 м ад вады?

А на чыю карысьць будзе адбывацца высяленьне спрадвечных жыхароў вядомага менчукам раёну прыватнай забудовы – Сельгаспасёлку? Людзі пасьля вайны там будаваліся, ім не дазволілі прыватызавацца, а цяпер выкінуць безь зямельнай кампэнсацыі? Што будзе з нашымі знакамітымі артэзіянскімі водазаборамі, якія даюць чыстую ваду для паловы сталіцы? У чыіх інтарэсах насуперак геалягічнай экспэртызе на ваданосных пластах плянуецца знос малых будынкаў і пабудова хмарачосаў – зноў жа расейскімі забудоўцамі?

Сказанае датычыць ня толькі Менску. Не сумняваюся, што масавы знос гістарычных дамоў у самым цэнтры нашай старажытнай (і параўнальна добра захаванай) Горадні робіцца зусім не дзеля палёгкі аўтамабілістам. Калі жыхары Пухавіцкага раёну, дзе расейская фірма "Август" плянуе будаваць сумнеўны хімічны завод, выйшлі пратэставаць супраць атрутнай пэрспэктывы для свае зямлі, іх сустрэла міліцыя, а затым – штрафы, арышты, выгнаньні з працы. Дык каму, чыйму капіталу служаць нашыя міліцыянты й чыноўнікі?

Нехта скажа: дык жа прыход інвэстараў – дабро для эканомікі. Маўляў, вы, БНФаўцы, і самі выступаеце за іншаземныя інвэстыцыі.

Сапраўды, мы за тое, каб прыходзілі інвэстары. Але бізнэс з дэмакратычных краінаў звыкся дзейнічаць паводле законаў і правілаў. Расейскі ж бізнэс зь яго намэнклятурным і/ці бандыцкім радаводам, наадварот, прызвычаіўся ігнараваць законы, "решать вопросы" дзе хабарам, а дзе і куляй. Пагатоў ён знаходзіцца пад абаронай расейскай улады, якая разглядае агрэсіўны бізнэс як адзін са спосабаў рэалізацыі сваіх імпэрскіх апэтытаў.

На жаль, цяперашнія ўлады нашай краіны ня будуць процістаяць гэтай экспансіі. Па-першае, А.Лукашэнка занадта доўга і бяздумна вёў Беларусь у прорву манапольнай энэргетычнай залежнасьці ад усходняга суседа. Па-другое, народнай улады без свабодных выбараў не бывае. Любая "вэртыкальна" прызначаная, непадкантрольная грамадзтву ўлада непазьбежна разьядаецца іржой карупцыі, што мы і бачым на прыкладзе зямельных канфліктаў.

Дык што, застанемся бяздомнымі й безьзямельнымі на сваёй спрадвечнай зямлі?! Практыка паказвае: толькі там, дзе жыхары аб'ядноўваюцца дзеля абароны сваіх законных інтарэсаў і адважна іх бароняць, ёсьць шанец адстаяць права на сваю зямлю пад сонцам. Інакш – ня будзе ні зямлі, ні сонца, ні Беларусі.

***Вінцук ВЯЧОРКА***
**першы намесьнік старшыні Партыі БНФ**

# Прыватызацыя ці "прыхватызацыя"?

Сёньня ў нашай прамысловасьці вельмі зношаны асноўны фонд, больш за 80 адсоткаў. Абнаўленьне асноўных фондаў павінна рабіцца, калі знос складае 50 %. З такімі асноўнымі фондамі вельмі цяжка рабіць канкурэнтаздольную прадукцыю. Узьнікае пытаньне: дзе ўзяць новыя станкі, новыя тэхналягічныя лініі?

Яшчэ тры гады таму Лукашэнка казаў, што нам зьнешнія інвэстыцыі не патрэбныя, мы абыйдземся і ўнутранымі. Але гэта дзесяткі мільярдаў зўра, тым больш, што тыя грошы, якія Беларусь зарабляе ад гандлю нафтапрадуктамі і калійнымі ўгнаеньнямі, Лукашэнка ўкладвае ў неэфэктыўныя калгасы і ў "прэстыжныя" аб'екты тыпу «лініі Сталіна». У прамысловасьць гэтыя грошы не ўкладаваліся. Але апошнім часам да беларускага кіраўніцтва "дайшло", што трэба шукаць інвэстыцыі, Савет Міністраў склаў адпаведныя пляны і давёў да ўсіх канцэрнаў, мінпрамаў, легпрамаў, харчпрамаў. Але як знайсьці таго інвэстара? Хіба ў дырэктараў заводаў ёсьць нейкія знаёмыя ў Эўропе? Ці яны павінны браць даведнік і пачынаць абтэлефаноўваць Эўропу і пытацца, ці ёсьць у там інвэстар, які хоча падтрымаць беларускае прадпрыемства? На жаль, нашыя дырэктары заводаў даўно ўжо жывуць ізалявана ад усяго сьвету, бо замежныя сувязі ніколі не віталіся зьверху.

Застаецца Расея, але там гатовыя ўкладваць грошы толькі туды, дзе яны вернуцца амаль адразу – у нафтахімію, у гандаль. Таму пачалі зьяўляцца крамы "Рублёўскі" ў Менску ды іншых гарадах Беларусі. Навошта ім ісьці ў станкабудаваньне, дзе грошы вернуцца толькі праз 10 год?

Зараз да дырэктараў даводзяцца плянавыя паказьнікі, колькі кожны зь іх павінен знайсьці грошай для свайго прадпрыемства – прыблізна 1-2 міліярды беларускіх рублёў на 1000 работнікаў. Дырэктараў выклікаюць на калегіі і кажуць, што, калі яны ня выканаюць пляны на інвэстыцыях, іх звольняць з працы. Сёньня прафэсія дырэктара стала непрэстыжнай: штодзённы прэсінг з боку вышэйшага кіраўніцтва, праверкі, дырэктывы. Ды і заробкі нават у параўнаньні з Расеяй вельмі нізкія, дзіва, што шмат спэцыялістаў зьехала туды ў апошнія гады.

Але палкай інвэстыцыі не прыгоніш, павінныя быць сувязі, кантакты. А інвэстары ведаюць імідж Беларусі. І хаця зараз улада робіць нейкія крокі ў бок эканамічнай лібэралізацыі, цяжка знайсьці саліднага інвэстара, які б не пабаяўся прыйсьці на Беларусь са сваім капіталам. У гэтай сытуацыі будуць прадавацца тыя заводы, якія патрэбныя рускім, а гэта лепшыя заводы Беларусі – Мазырскі і Наваполацкі нафтаперапрацоўчыя заводы, Гарадзенскі АЗОТ, МАЗ, МТЗ, Салігорскі калійны камбінат і г.д. І ёсьць вялікі сумнеў, што рускія будуць рабіць грунтоўную мадэрнізацыю гэтых заводаў.

У апошнія месяцы і ў стасунках з Эўропаю зьявіліся новыя нюансы. На фоне размоваў аб прыватызацыі і эканамічнай лібэралізацыі асобныя эўрапейскія бізнэсмены, палітыкі і дыпляматы пачалі спрабаваць дамовіцца з Лукашэнкам аб нейкіх "дэкаратыўных", "дыпляматычных" стасунках. Размова ідзе пра тое, каб беларуская ўлада сфальшавала выбары ня толькі на карысьць дэпутатаў Лукашэнкаўскага сьпісу, але і на карысьць 2-3 кандыдатаў з апазыцыйнага сьпісу. І тады, маўляў, нейкія эўрапейскія грошы прымуць удзел у Лукашэнкаўскай "прыхватызацыі". Акцэнтую ўвагу на слове "прыхватызацыя", бо продаж беларускіх прадпрыемстваў адбываецца таемна, па закрытых схемах, мафіёзна.

Партыя БНФ абавязаная абвясьціць сваю катэгарычную нязгоду з Лукашэнкаўскай "прыхватызацыяй" і спробай асобных палітыкаў прызнаць Лукашэнкаўскую "палатку".

28 верасьня на Плошчы мы павінны рашуча выступіць у абарону беларускай маёмасьці і супраць махляроў, якія хочуць гэтую маёмасьць скрасьці.

Толькі дэмакратычна абраны парлямент можа даць належныя гарантыі сур'ёзным і надзейным інвэстарам. Толькі дэмакратычны ўрад можа правесьці празрыстую і эфэктыўную прыватызацыю, якая дасьць магутны штуршок разьвіцьцю беларускай эканомікі.

***Віктар ІВАШКЕВІЧ***
**намесьнік старшыні Партыі БНФ**

## За межамі






© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



# Адукацыйная рэформа – пагром школы




**Чарговая "рэформа" адукацыі прывядзе да масавых скарачэньняў настаўнікаў, яшчэ больш аддаліць нашу школу ад эўрапейскіх стандартаў, а вучняў ператворыць у вінцікі ўлады.**

35 год я працую настаўнікам у вясковай школе. Спярша ў савецкай, цяпер вось у гэтай школе – і пасьлядоўна быў патрапіў у аб'екты, а потым і ў суб'екты пэдагагічных экзэрсісаў. Пачынаў я навучаньне, калі была сямігадовая і дзесяцігадовая сярэдняя школа. Потым савецкія рэфарматары зрабілі васьмігодку і адзінаццацігодку. Калі я канчаў школу, адзінаццацігадовае навучаньне скасавалі і было два выпускі з дзьвюх сярэдніх школ: адзінаццацігадовай і дзесяцігадовай. Потым зноў стала адзінаццігодка. Потым, пад арыфламай барацьбы з перагрузкай вучняў, зрабілі дванаццацігадовую адукацыю, і палкім прыхільнікам гэтай эмансіпацыі быў ніхто іншы, як сам сп. Аляксандр Лукашэнка.

"Некаму" ізноў засьвярбела і школу чакае чарговая контррэфармацыя. Вось табе на! І бацькі былі "за", і прэзыдэнт "за" і вучні не пратэставалі і раптам як бы нааадварот: большасьць "супраць". Ці ж была грамадзкая дыскусія па такім важным пытаньні? Улада, як глушэц на такавішчы, нічога і нікога ня чуе і ня бачыць.

### Школу цягнуць у савецкую мінуўшчыну

Спад маральнасьці і выхаванасьці адбыўся з-за крызісу сям'і, з-за разбэшчанай тэлевізійнай прапаганды. Тэлебачаньне і жоўтыя газэты з часопісамі пачалі расьпеpазаную прапаганду салодкага ладу жыцьця ў асяродку з люмпэнізаванай сьвядомасьцю, расхісталі ранейшыя табу і традыцыйныя этычныя нормы. Улада максымальна і штучна звужае магчымасьці сацыяльнай мабільнасьці для ніжэйшай клясы. Камуністычны кодэкс будаўніка камунізму пакінуў пасьля сябе маральную пустэчу. Тое ж будзе і з адроджанымі нэа-савецкімі арганізацыямі. Тыя юнакі і дзяўчаты, якія пераважна прымусам загналі і заганяюць у БРСМ, мне прызнаваліся, што не пратэставалі, бо чакаюць розных абяцаных ім выгод. Пабачце, ідэйнымі меркаваньнямі тут і ня пахне, адны меркантыльна-спажывецкія. Віншуем: "ідэалягічна-патрыятычнае выхаваньне" ёсьць, а вынік – нулявы. Зрэшты, вынік, праўда пабочны, ёсьць: на гэтым псэўдавыхаваньні паразітычна корміцца ганьня вэртыкальных ідэолягаў.



### Настаўнік — прыніжаны і зьняважаны

Зарплата настаўнікаў нізкая. На стаўку пражыць немагчыма.

Настаўніцкая праца цяжкая, хоць зьнешне гэта і не відаць. Псыхалягічны прэсінг вельмі значны. Калі пераступаецца пэўная крытычная мяжа заробку – жыцьцёвага роўню, – настаўнікі бяз жалю і з палёгкаю кідаюць школу.

Службовага росту ў адукацыі практычна няма. Не лічыць жа пасаду завуча кар'ерным падвышэньнем! Няма і істотнага росту заробку па меры стажу. То бок настаўніцкая праца сацыяльна тупіковая. Маладыя прымусова разьмеркаваныя людзі наўпрост кажуць начальству, што не зацікаўленыя ў працы ў школе. Я трактую гэта як форму супраціву цяперашнім парадкам у адукацыі.

### Дзяржаве нельга эканоміць на адукацыі

Адукацыя - не раскоша, ня "чыста затратная сфера". Менавіта прускі настаўнік выйграў Француза-прускую вайну 1870-71 гадоў. Праз сфэру адукацыі, хоць бы ў аб'ёме сярэдняй школы, ствараецца ад чвэрці да трацціны нацыянальнага здабытку. "Затратная" сфера ад дзіцячага саду да ўнівэрсытэту акупляецца цягам пяці першых год працы чалавека! Без адукацыі немагчымае існаваньне сучаснага грамадзтва, ягоных вытворчых сфэр. Болей за тое, адукацыя і навука сталі вырашальным фактарам эканамічнага прагрэсу. Гэта, праўда, калі ісьці за цывілізаванымі нацыямі.

Вядома, інвэстыцыя ў адукацыю прыносіць дывідэнды адтэрмінавана, зь цягам часу. Але дзяржава абавязаная аказваць сваім грамадзянам адукацыйныя паслугі, як і шэраг іншых. Гэта абавязак, а ня міласьць.

Адукацыя называецца народнай ня толькі таму, што для народу, а і таму, што фінансуецца народам. Цяпер, каб падтрымаць адукацыйны ровень сваіх дзяцей, народ палез далей у машну, падтрымлівае адукацыю прамымі прыватнымі інвэстыцыямі. Людзі ўсьведамляюць крах казённай адукацыі і робяць выбар на карысьць дасяжнай прыватнай. Я ня ведаю памераў прыватных затрат, але мяркую, што яны значныя, пэўне шматмільярдныя. Нездарма міністэрства падаткаў разаслала па школах грознае папярэджаньне з пагрозамі драконавых штрафаў і канфіскацый тым, хто без дазволу дзяржавы аказвае адукацыйныя паслугі.

Грошы ад людзей браць навучыліся. Паказалася мала. У гэтай сувязі *цынічнае пазбаўленьне студэнцкай моладзі традыцыйных прывілей* было грубай памылкай. Пэўна, кароль і сьвіта падумалі, што забурэньняў ня будзе, таму можна ўшчыкнуць бездапаможнае, незгуртаванае студэнцтва. Так і сталася, але гэта, канешне, Пірава перамога. Адказ будзе, ён папросту адкладзены на пэўны час.

### Адукацыя і свабода

Калі можна наракаць на несучасны характар нашай вышняй адукацыі, то, скажыце, ці ж багата ў нас найноўшых, перадавых тэхналёгіяў, каб спараджаць і патрабаваць сучасныя веды? Колькі ў нас эканамічнай свабоды? Хто стаіць на чале Акадэміі навук і як ён на тое чапо стаў? Чаму няма акадэмічных свабод? Чаму сістэма навучаньня носіць казарменны характар фармальнай прысутнасьці на занятках?

Мы часта абмяркоўваем праблему самастойнага пошуку інфармацыі вучнямі. У безынтэрнэтавай вёсцы з небагатай бібліятэкай гэта няпроста, але мы імкнемся прывучаць вучняў. Дык чаму студэнт на казарменным становішчы? На якой падставе студэнта змушаюць аддаваць грошы за навучаньне, калі ён уладкуецца на працу не па разьмеркаваньні? Дзяржава аказала яму адукацыйную паслугу, і ён акупіць яе цягам пяці год. Дзяржава – не прыватнае прадпрыемства, яна не прападзе, калі адкуе сваіх юнакоў і дзяўчат. Хочаш ці не, але ўзьнікае ўражаньне, што *дзяржаве вінны ўсе, а яна – нікому і нічога.* Ці не рабуе дзяржава гэткім чынам сваіх маладых грамадзян?

*Калі ня будзе палітычнай свабоды, то ня будзе і акадэмічнай свабоды, ня будзе і сучаснай адукацыі. Гэта як з тымі "сіліконавымі" далінамі – яны ўзьнікаюць не па камандзе, а па патрэбе.*

### Дэгуманізаваная школа выхавае не патрыётаў, а цемрашалаў

Недахоп чалавеказнаўчых дысцыплін робіць нашу адукацыю утылітарнай і абмежаванай, не дазваляе лідэрам гістарычна і шырока ацэньваць сваю дзейнасьць, вядзе да блізарукіх рашэньняў. Адсутнасьць грунтоўнай гуманітарнай адукацыі кідае цень цемрашальства на цяперашняе кіраўніцтва, замінае яму мець рэалістычны стратэгічны плян разьвіцьця Беларусі.

Вялізарным недахопам ёсьць адсутнасьць беларускага нацыянальнага складніка ў адукацыі. Гэта нагадвае ранейшае дохлае "мы - інтэрнацыяналісты". Між тым палітыка, перад усім зьнешняя, мусіць быць нацыянальна-эгаістычнай, а не падладжвацца пад гнеў ці ласку вялізнага суседа. Падчас візітаў у краіны трэцягатункавых рэжымаў Аляксандр Лукашэнка адмыслова падкрэсьлівае, што дасьць тамтэйшым бізнэсоўцам лепшыя ўмовы, чым беларусам.

Мяне, беларуса, заўсёды абражала грэблівае стаўленьне да маёй мовы і майго народу. Цяперака я тлумачу гэта пераважна дзьвюма прычынамі: як каляніяльнай фанабэрыяй тутэйшых крэолаў, што дэградавалі зь беларусаў да "савецкага народу", а да "вышэйшага" статусу "рускага" не дарасьлі і ніколі не дарастуць, гэтак і пячорным невуцтвам і бескультур'шчынай. Вядома ж, не без падказак розных райцаў з усходу. Усякая маргіналізацыя найперш вядзе да страты свайго, але не прыводзіць да набыцьця іншай тоеснасьці.

Нашы "адукатары" ня здатныя напісаць падручнікі па-беларуску, іх пекладаюць на беларускую выпадковыя людзі!

Чаму адукатары ад сахі разграмілі Беларускі Нацыянальны ліцэй імя Якуба Коласа? Сімптаматычная трансфармацыя будынка ліцэю ў суд. Цяперака там судзяць за "няправільныя" палітычныя погляды ягоных былых навучэнцаў. Дзе вучыўся, там і судзіўся! Мо ад любові да навукі і моладзі?

### Дык што рабіць!

Жыццё не стаіць на месцы. Таму калі трэба нешта памяняць, то рабіць гэта з думкаю пра будучыню, а то будзе крок наперад, два крокі назад. Такія два крокі з азіраньнем назад і зьбіраюцца рабіць. Занудзелі гэтыя рэтраспэктыўныя рэфармацыі.

Новыя рэфарматары чамусьці выпусьцілі з-пад увагі рэфармаваньне сыстэмы кіраваньня адукацыяй. Абласныя ўправы адукацыі – абсалютна непатрэбныя паразітычныя структуры. Менавіта зь іх ідзе вадаспад бессэнсоўных для настаўніка папер, менавіта яны ўносяць найбольш інфармацыйнага шуму і псіхозу ў працу школу. Школа здольна самастойна вырашаць усе ўласьцівыя ёй заданьні. Таму гэтыя абласныя і раённыя зьвёны трэба ліквідаваць, пакінуўшы адну вэртыкаль: міністэрства адукацыі – школа.

Трэба абавязкова далучаць грамадзкасьць да школы. Гэта дапамагло б вырашыць важную частку тых праблем, якія заўсёды непакоюць настаўніка.

Зрэшты, па словах аднаго знаўцы рэжыму знутры, ягонага вернага служкі, на сёньняшні дзень Беларусь – гэта вялікі канцлагер. Што б ні мянялі ўнутры гэтай сыстэмы – ейны характар не мяняецца.

**Мікола БУСЕЛ**

## Алесь Бяляцкі: "Казаць пра дэмакратычныя выбары не даводзіцца"



«Мы неаднаразова чулі выказваньні Лукашэнкі пра тое, што выбары ў Беларусі павінны адбыцца дэмакратычна і празрыста. Аднак насамрэч мы сутыкнуліся з сытуацыяй, калі інфармацыя з участковых камісій будзе закрытая для беларускага грамадзтва. Таму што там няма прадстаўнікоў розных палітычных сіл», — сказаў віцэ-прэзыдэнт Міжнароднай фэдэрацыі правоў чалавека (FIDH) Алесь Бяляцкі.

Паводле дадзеных праваабаронцаў, ва ўчастковыя выбарчыя камісіі ўключае толькі 48 прадстаўнікоў апазыцыйных палітычных партый і руху, што складае 0,07% ад агульнай колькасьці сябраў участковых выбарчых камісій.

«Па сутнасьці, для правядзеньня празрыстых і дэмакратычных выбараў трэба пачынаць гэты працэс пановаму. Фармаваньне ўчастковых камісій настолькі важное для прадстаўленьня аб'ектыўных дадзеных па выніках выбараў, што пасьля таго вугла, у які мясцовыя адміністрацыі з фармаваньнем участковых камісій себя загналі, іншага выйсьця я ня бачу», — заявіў Алесь Бяляцкі.

«Што можа быць выйсьцем? Прызначэньне дзесятка дэмакратаў у дэпутаты? Дамова пра тое, што апазыцыйныя кандыдаты ў дэпутаты пройдуць у парлямэнт? Гэта не дэмакратычны працэс», — адказаў Алесь Бяляцкі.

«Я ня ведаю, ці пойдуць на такія дамовы палітычныя партыі. Але што тычыцца нас, то мы будзем аб'ектыўна ацэньваць выбарчы працэс. Але казаць пра дэмакратычныя выбары ў гэтай сытуацыі пакуль не даводзіцца», — канстатаваў праваабаронца.



© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015




# Хвалюе стан мэдыцыны

Таталітарныя лідэры звычайна любяць мэдыцыну. Яна дапамагае ім у процістаяньні адзінаму чыньніку, на каторы яны ня ў стане уплываць – часу. Але высокі ўзровень мэдыцыны ў краіне, каторую катуе гэткі "лідэр" – зусім ня факт.

Ёсьць задакумэнтаваныя і афіцыйныя падставы назваць асноўныя хібы галіны: 1) няякасная спэцыялізаваная дапамога; 2) грэбаваньне прафэсійнай этыкай; 3) парушэньне санітарных нормаў; 4) парушэньне правілаў разьмяшчэньня хворых; 5) парушэньне парадку прадстаўленьня платных паслугаў; 6) парушэньне тэрмінаў разгляду скаргаў.

Пракуроры пастанавілі прыпыніць платныя паслугі. Бездакорна бюракратычны крок. Ён пагоршыў становішча хворых і не палепшыў стан галіны. А стан такі, што нават адстаўныя кэдэбісты лямантуюць, апынуўшыся ў паліклініцы разам з народам.

У "Краіне Здароўя" ад 24.05.08 уразіў пасаж аднаго з камандзіраў ад мэдыцыны: "Да аказаньня мэдыцынскай дапамогі павінны быць гатовы ўсе: аўтамабілісты, выратавальнікі, работнікі міліцыі і ДАІ, сцюардэсы, праваднікі цягнікоў, але, на жаль, на практыцы ўсе чакаюць прыезду хуткай дапамогі..."

Пачалася дзяржаўная агітацыя за тое каб "купляць" здароўе – наведваць дактароў, набываць лекі і вітаміны. Трэба рабіць яго "сваімі рукамі": прыкладаць намаганьні, каб захаваць здароўе і прадоўжыць жыцьцё.

Загадчык лябараторыі Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра гігіены Валерый Ключановіч сказаў: "Цяперашняя дэмаграфічная сытуацыя ў краіне – гэта «аптымістычная трагедыя». Трагедыя – тамy што працягваецца працэс памяншэньня насельніцтва ці, напросту, выміраньне. Дзеля спыненьня працэсу нацыянальнай ідэяй павінна стаць здароўе". Прычыны дэпапуляцыі, між тым, усім вядомыя: алкагалізм, жудасная пітная вада, няякаснае харчаваньне і наступствы Чарнобылю.



"Нашыя пацыенты ўжываюць зашмат жывёльных тлушчаў, бульбы і хлеба", - адзначыў навуковец. Зразумела аднак, што хлеб і бульба ў рацыёне не гастранамічная прыхамаць, а сацыяльны вынік.

У кожнай дзясятай вясковай сям'і, дзе ёсьць дзеці, тым дзецям не хапае пратэінаў, бо іхныя бацькі – па-простаму кажучы – дэгенэраты. Хапае такога і ў гарадох...

Адна з прапановаў Валерыя Ключановіча проста выдатная: "Сёньня вялікую занепакоенасьць выклікае здароўе дзяцей, таму трэба даць магчымасьць малым, разам з бацькамі, займацца ў школьных спартовых залях". Але хто пойдзе, калі па ягоных жа словах: "Паводле статыстыкі, хатнія гаспадаркі выдаткоўваюць на цыгарэты і алкаголь грошай болей, чым на здароўе".

У Беларускіх мэдустановах назіраецца кадравы дэфіцыт. Больш як 6 тысяч урачоў знаходзяцца ў пэнсійным узросьце. Зь 52 тысяч пасад урачоў фізічнымі асобамі ўкамплектаваныя толькі 80 працэнтаў. На пачатку гэтага году вакантнымі былі каля 3 тысяч урачэбных пасад. Да 30 працэнтаў выпускнікоў пасьля адпрацоўкі двух гадоў па размеркаваньні зьмяняюць свае месца працы.

Абяцаньням бясконцага працягу людзкіх пакутаў выглядаюць такія фрагмэнты з афіцыёзу як, напрыклад, гэты: "Па словах Сяргея Сычыка, у найбліжэйшы час заробкі так званых «вузкіх» спэцыялістаў павінны павялічыцца – праект адпаведнага дакумэнту зараз знаходзіцца на ўзгадненні ў зацікаўленых ведамствах". Нармальным людзям ва ўсім сьвеце не патлумачыш, чаму ў трансакцыю куплі продажу паслугі паміж пацыентам і лекарам павінны ўклінівацца невядома ў чым зацікаўленыя ведамствы.

У траўні гэтага году "Заўтра тваёй краіны" паведаміла: "Калі мэдыкам павысяць зарплату, ня будзе чым лячыць хворых". Нагодаю стала пастанова Саўміна, якая дазваляе пацыентам самастойна закупляць расходныя матэрыялы для складаных апэрацый, фактычна прызнаўшы, што ў лякарнях не хапае сродкаў на лячэньне.

У мінулым годзе ў Беларусі на ахову здароўя ў разьліку на аднаго жыхара было патрачана 164 даляры. У краінах ЭЗ і ЗША – 2-3 тысячы даляраў і 6,5 тысяч даляраў адпаведна.

Мэдыцына – вельмі дарагая сфэра. Яна прынцыпова адрозьніваецца ад іншых галін эканомікі. Калі ў любой іншай сфэры выкарыстаньне прагрэсіўных тэхналёгій вядзе да патаньненьня паслугі, то ў мэдыцыне, наадварот, – да падаражаньня. Вось чаму нават самыя багатыя дзяржавы ня могуць дазволіць сабе бюджэтнае ўтрыманьне мэдыцыны. Беларускія ж улады пакуль не разглядаюць у прынцыпе развіцьцё страхавой мэдыцыны. Сфэра платных мэдыцынскіх паслуг у нашай краіне разьвіваецца вельмі павольна. Як і ў савецкія часы, асноўная крыніца фінансаваньня аховы здароўя – бюджэт.

На мэдыцыну ў нашай краіне трацiцца, у сярэднем, 4-4,2% ВУП. Для параўнаньня, у краінах Эўразьвязу – 9%, в ЗША – 15%.

У лютым 2006 года напярэдадні выбараў палітык Лукашэнка паабяцаў у новай пяцігодцы (2006-2010 гг). выдаткаваць на ахову здароўя ня менш 7% ВУП. Але ў 2008 годзе ў Беларусі на ахову здароўя заплянавана патраціць столькі ж, колькі і ў мінулым, і ў пазамінулым – усё тыя ж 4% ВУП.

Для параўнаньня, на армію ў 2008 годзе заплянавана патраціць 1 трыльён 240 мільярдаў, а сілавым ведамствам – МУС і КДБ – вырашана выдзяліць амаль у два разы больш бюджэтных сродкаў, чым на ўсю сыстэму аховы здароўя – 1 трыльён 949 мільярды рублёў.

У мэдустановах рэспубліканскага значэньня пацыенты атрымліваюць самае дарагое лячэньне. Гэта і зразумела: толькі ў такіх цэнтрах выконваюцца самыя складаныя апэрацыі, кошт адной зь якіх даходзіць да 15 тысяч даляраў ЗША.

Самае хваравітае пытаньне для многіх раённых лякарань – адсутнасьць сучаснага абсталяваньня. Часам самае лепшае, што ёсьць у раёне – старэнькі апарат УЗІ. У мінулым годзе міністр аховы здароўя Васіль Жарко прызнаўся, што 80% мэдтэхнікі ў краіне, асабліва гэта тычыцца раённых лякарань і паліклінік, мае тэрмін службы больш 10 гадоў. Гэтае абсталяваньне і маральна і фізічна састарэла. А потым мы зьдзіўляемся, чаму так часта на раёне "прагледзелі" хваробу, занадта позна паставілі слушны дыягназ.

Не найлепшая сытуацыя і ў паліклініках, дзе да праблемы абсталяваньня дадаецца яшчэ і кадравая недастатковасьць.

Зараз у Беларусі дэфіцыт урачоў складае 13 тысяч чалавек. 19,4 працэнты ўрачоў Беларусі – пэнсіянэры. У паліклініках ўрачы працуюць, у асноўным, па паўтары стаўкі.

Аналіз сытуацыі сьведчыць, што асноўнай прычынай крызісу ў айчыннай мэдыцыне зьяўляецца фармальная адсутнасьць непасрэдных эканамічных дачыненьняў паміж асобамі, каторым паслуга патрэбная, і асобамі, каторыя маюць магчымасьць яе даць. Палітычнае рашэньне палягае ў шырокай кампаніі абмеркаваньня і выбары найбольш пасьпяховай схемы бюджэтнага датаваньня паслугаў нямоглым і бедным.

**Казімір ЗОЛАК**

Круглы стол

# Дэмаграфічная сытуацыя ў Беларусі

**У Слоніме адбыўся круглы стол па пытаньнях трывожнай дэмаграфічнай сытуацыі, якая цяпер складаецца ў Беларусі. На пытаньні, зьвязаныя з дэмаграфічнай сытуацыяй у Беларусі, вырашылі адказаць сябры Партыі БНФ кандыдат мэдыцынскіх навук, дацэнт з Горадні Сяргей Мальчык, доктар Слонімскай раённай бальніцы Іван Шэга і фэльчар Слонімскай раённай бальніцы Іван Бедка.**

**— Ці ня позна сёньня мы спахапіліся вырашаць дэмаграфічную праблему ў Беларусі!**

**Сяргей Мальчык:** Яшчэ ў 2001 годзе Палатай прадстаўнікоў быў прыняты закон аб дэмаграфічнай бясьпецы Беларусі, у якім шмат сказана аб дэмаграфічных пагрозах, прынцыпах дэмаграфічнай бясьпекі, але час ідзе, а ўсё застаецца, як было. У нас памірае шмат людзей, а нараджаецца мала, таму ў Беларусі адмоўны прырост насельніцтва. Беларусь застаецца ў стане дэмаграфічнага крызісу: паніжэньне колькасьці насельніцтва краіны на найбліжэйшыя 30 гадоў складзе больш за 15%, а праз стагодзьдзе наша нацыя можа зьнікнуць.

**— Ці ёсьць статыстычныя дадзеныя, зь якіх відаць, што ў нас сапраўды існуе дэмаграфічная праблема?**

**Іван Шэга:** Па статыстычных дадзеных, у 2007 годзе памерла па краіне 132 855 чалавек, зь іх анкалягічныя хворыя склалі 18 141, хваробы сыстэмы кровазвароту – 76 725 чалавек, няшчасныя выпадкі, траўмы і атручваньні – 14 290 чалавек. У параўнаньні з 1999 годам мы страцілі 355,5 тыс. чалавек, гэта значыць – буйны горад, большы за Горадню. Ад аднаго толькі алкаголю ў пэрыяд зь 2000 да 2007 года ў нас памерла людзей больш, чым за ўсю афганскую вайну. Працягласьць жыцьця за 2007 год склала для мужчын 62,7 года, што на 12-14 гадоў менш, чым у разьвітых краінах. Беларуская сям'я знаходзіцца ў вострым крызісе. На 1000 шлюбаў прыходзіцца 400 разводаў. Нізкая нараджальнасьць у нашай краіне мае ўстойлівую тэндэнцыю і склала ў 2006 годзе 10,1 на 1000 насельніцтва. Высокай застаецца колькасьць зробленых у рэспубліцы абортаў, напрыклад, у 2006 годзе іх было 58,5 тысячы.

**— На маю думку, найвялікшай праблемай сёньня зьяўляецца алкагалізм...**



Сябра Сойму Партыі БНФ, доктар Слонімскай раённай бальніцы Іван Шэга

**Іван Бедка:** І безь яе вырашэньня наша краіна проста ня зможа існаваць. Толькі ў 2007 годзе 2416 чалавек да сьмерці атруціліся алкаголем.

Алкагалізм – адна з асноўных чыньнікаў дэмаграфічнай катастрофы ў нашай краіне. Мерапрыемствы, якія шырока рэклямуюцца ў рамках Года здароўя, не перашкаджаюць дзяржаве паралельна набіваць казну «п'янымі» грашыма. Па дадзеных Мінстата, у студзені-красавіку 2008 года выпуск гарэлкі і лікёра-гарэлачных вырабаў вырас на 16,6%. За гэты пэрыяд выраблена 45 млн. 450 тыс. літраў гарэлкі і лікёра-гарэлачных вырабаў, або 4,7 літра на кожнага жыхара Беларусі.

**— Існуе і шэраг іншых праблем у нашым грамадзтве, напрыклад вынікі аварыі ў Чарнобылі...**

**Сяргей Мальчык:** Наступствы Чарнобылю – другі чыньнік высокай сьмяротнасьці. Забруджваньне тэрыторыі Беларусі радыенуклідамі прывяло да значнага росту анкалягічных захворваньняў. Радыенукліды вінаватыя ў высокай сьмяротнасьці ад захворваньняў сасудаў і сэрца. За мінулы год на забруджаных тэрыторыях вырасцілі 200 тысяч тон збожжа. Усе гэтыя прадукты прадаюцца на ўсёй тэрыторыі Беларусі.

**— Прычынай сьмяротнасьці зьяўляецца і старэньне нашага насельніцтва.**

**Іван Шэга:** Колькасьць насельніцтва, узрост якога перавышае 65 гадоў, складае ў Беларусі 14%, гэта ў два разы больш за крытэрый, па якім ААН адносіць дзяржаву да ліку краін са старым насельніцтвам.

**— А чаму ўсё ж у нас мала нараджаецца дзяцей?**

**Іван Бедка:** Я лічу галоўным чыньнікам нізкай нараджальнасьці дэфіцыт у Беларусі сапраўдных мужчын. Гэта азначае, што значнай часткі нашых жанчын проста няма з кім "зьвіць гняздо" і нарадзіць дзяцей. І вінавата ў гэтым зноў жа павальнае п'янства. З аматарам сьпіртнога аніводная жанчына не адчувае сябе абароненай і проста баіцца застацца адной зь дзецьмі на руках. І тут не дапамогуць ніякія матэрыяльныя заахвочваньні.

**— Але дэмаграфічная праблема існуе ня толькі ў Беларусі, але і ў іншых эўрапейскіх краінах.**

**Іван Шэга:** Трэба вывучаць вопыт тых краін, якія маюць посьпехі ў пераадоленьні падобных негатыўных наступстваў. У гэтым годзе пачалася ўсеагульная дыспансэрызацыя насельніцтва, гэта я лічу правільным. Але існуе небясьпека, што ўсё закончыцца кампанейшчынай для галачкі, як было ў савецкія часы. Калі людзі будуць працягваць піць іржавую ваду з-пад крана, ужываць у ежу прадукты з забруджаных радыеактыўнымі рэчывамі тэрыторый, бязь меры ўжываць алкагольныя напоі, праца ваць без адпачынку, каб пракарміць сям'ю, то ці дапаможа тая дыспансэрызацыя?

*Сяргей ЧЫГРЫН, «Газэта Слонімская»*


БЕЛСАТ tv
BELSAT



ПЕРШАЕ НЕЗАЛЕЖНАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ Ў БЕЛАРУСІ

www.udfb.org



АБ'ЯДНАНЫЯ ДЭМАКРАТЫЧНЫЯ СІЛЫ БЕЛАРУСІ



НавіНЫ БНФ
Спэцвыпуск

**Рэдактар:** Ната Сеніна
**Наклад:** 299 асобнікаў
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакумэнтацыі Партыі БНФ
**Адрас:** 220005, Менск, пр. Машэрава, 8, сядзіба Партыі БНФ




© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015